Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць з верасня 1995 года

# Газета Уладзіміра Кудзінава

СЕРАДА № 6 (35)

24 студзеня 1996 года

Цана па падпісцы – 444 руб.,
цана ў розніцу – 700 руб.

## Час мясцовы

Шмат што ў наш час успрымаецца зусім наадварот, чым у мінулым. Да прыкладу – добрая праца якога-небудзь прадпрыемства выклікае часам здзіўленне. І зразумела чаму: на фоне агульнага эканамічнага заняпаду больш-менш стабільная дзейнасць выглядае роўна стаячым каласком на палеглым жытнёвым полі.

## Добра працуецца – добра святкуецца

Адным з такіх каласкоў з'яўляецца ПМК-2 трэста „Белпалівабуд". У зводках аб выніках працы гэтая будаўнічая арганізацыя паказвае лічбы са знакам „плюс" у адносінах да мінулагодняга.

Таму і свята, якое ладзілася ў ПМК-2 з нагоды 40-годдзя „Белпалівабуда" атрымалася шчырым. Узгадалі зробленае арганізацыяй за ўсе гады. А гэта, дарэчы, нямала. Тое ж торфапрадпрыемства "Бярозаўскае" і яго рабочы пасёлак. Павіншавалі ветэранаў арганізацыі. 37 работнікаў ПМК-2 атрымалі грашовыя прэміі ў памерах ад 500 да 700 тысяч, 42 чалавекі – ад 300 да 500 тысяч рублёў. Уручаў іх начальнік В. Стасевіч, паціскаючы рукі работнікам і падзякаваўшы за добрасумленную і старанную працу.

Прыемна пачуць аб такой падзеі, а калі ўлічыць, што навіны такія – рэдкасць, то прыемна ўдвая.

**В. ГАПЕЕЎ.**

## АКРЭДЫТАЦЫЯ – НЕ АНДУЛЯЦЫЯ,
## АЛЕ ЎСЁ РОЎНА НЕЗРАЗУМЕЛА,
## ШТО ГЭТА ТАКОЕ...

*– Дуня, ты будзеш рабіць андуляцыю?*
*– Ты што? Я – не такая!*
*– Якая – не такая? З завіўкай–андуляцыяй, значыць, – выглядаеш жа прывабней!*
*– А-а-а. Завіўку, вядома, зраблю.*

Слова „андуляцыя" (ondylacje – польск.) выкарыстоўвалася некалі ў заходніх раёнах Беларусі, дзе наша мова падверглася пэўнаму ўздзеянню польскай культуры. Вастрасловы прыкмецілі яго незвычайнае для беларускага вуха гучанне і адпаведную рэакцыю вясковых модніц з прэтэнзіяй на інтэлігентнасць, адукаванасць і бясспрэчную прыстойнасць.

Гэтае слова не прыжылося ў нас. Іншыя ж – наадварот занялі такое месца ў нашай мове, што, здаецца, не маюць адпаведных слоў-сінонімаў, а перакладаюцца некалькімі словамі. „Акрэдытацыя" – адно з такіх слоў. Яно мае некалькі значэнняў. Акрэдытацыя карэспандэнтаў, напрыклад, азначае гарантаваную ім магчымасць атрымліваць інфармацыю ад дзяржаўных органаў, арганізацый, устаноў, органаў грамадскіх аб'яднанняў. Калі рэдакцыя „Газеты Уладзіміра Кудзінава" папрасіла Івацэвіцкі раённы Савет дэпутатаў акрэдытаваць сваіх карэспандэнтаў, то, на жаль, разыгралася сцэна нібы ў анекдоце, які прыведзены вышэй.

Але раскажам усё па парадку.

Як вядома, з верасня мінулага года ў Івацэвічах пачало выходзіць новае перыядычнае выданне – „Газета Уладзіміра Кудзінава". Яна зарэгістравана ў Міністэрстве культуры і друку 11 ліпеня 1995 года (пасведчанне аб рэгістрацыі № 1147), друкуецца ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні з дазволу Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (№ 10/205). Тэрыторыя распаўсюджвання газеты – Івацэвіцкі раён, праграмныя мэты – асвятленне грамадскага, эканамічнага жыцця гэтага раёна.

Цяпер у рэдакцыі „Газеты Уладзіміра Кудзінава" працуюць пяцёра журналістаў, якія маюць адпаведную адукацыю і вялікі вопыт работы ў друку. Сваю работу мы будуем на прынцыпах прафесіяналізму, аб'ектыўнасці, адкрытасці старонак газеты для ўсіх жыхароў раёна незалежна ад іх палітычных прыхільнасцей, ідэалагічных і рэлігійных перакананняў. Лічым, што наша пазіцыя знаходзіць станоўчы водгук у жыхароў раёна, бо ўжо сёння, на пятым месяцы існавання, маем 2.000 падпісчыкаў.

5 студзеня г. г. рэдакцыя „Газеты Уладзіміра Кудзінава" звярнулася ў райвыканкам і раённы Савет дэпутатаў з пісьмовай заявай аб акрэдытацыі карэспандэнтаў нашай газеты пры райвыканкаме і райсавеце згодна з артыкулам 42 Закона Рэспублікі Беларусь „Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", у якім гаворыцца:

**„Рэдакцыі сродкаў масавай інфармацыі маюць права на акрэдытацыю сваіх карэспандэнтаў пры дзяржаўных органах, арганізацыях, установах, органах грамадскіх аб'яднанняў.**

**Органы, арганізацыі, установы, пры якіх акрэдытаваны карэспандэнт, абавязаны паведамляць яму аб маючых адбыцца пасяджэннях, нарадах і іншых мерапрыемствах, забяспечваць стэнаграмамі, пратаколамі і іншымі дакументамі, ствараць спрыяльныя ўмовы для ажыццяўлення запісу."**

11 студзеня г. г. мы атрымалі на нашу заяву адказ, падпісаны старшынёю райсавета М. М. Валковічам, у якім паведамляецца, што прэзідыум раённага Савета дэпутатаў не лічыць неабходным акрэдытацыю карэспандэнтаў „Газеты Уладзіміра Кудзінава" пры райсавеце дэпутатаў па той прычыне, што газета „Івацэвіцкі веснік" дастаткова поўна асвятляе грамадскае, палітычнае і эканамічнае жыццё Івацэвіцкага раёна.

Са здзіўленнем і неўразуменнем чыталі мы гэты адказ. Неўразуменне, па-першае, выклікае не толькі тое, што прычынай адказу з'яўляецца існаванне ў раёне газеты „Івацэвіцкі веснік" і, як гаворыцца ў адказе, дастаткова поўнае асвятленне ёю жыцця нашага раёна. Гэта – наогул не прычына, бо існаванне адной газеты не забараняе існаванне другой. Падпісчыкі і першай, і другой газеты маюць неабходнасць і права мець на старонках газет, якім яны аддаюць перавагу, афіцыйную інфармацыю ад райвыканкама і райсавета. Як нам здаецца, райсавет павінен сам быць зацікаўлены ў тым, каб 2.000 падпісчыкаў „Газеты Уладзіміра Кудзінава" – а гэта цяпер жыхары ўсіх населеных пунктаў раёна, мелі інфармацыю аб справах райсавета з першых, як гаворыцца, вуснаў, а не ў перакладзе яе з іншых крыніц.

Дазволім сабе тут зрабіць і невялікую заўвагу: на нашу думку, газета „Івацэвіцкі веснік" не толькі недастаткова поўна асвятляе жыццё раёна, але і наогул яго не асвятляе. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова адкрыць падшыўку газеты „Івацэвіцкі веснік".

Па-другое, адмаўляючы ў акрэдытацыі карэспандэнтам „Газеты Уладзіміра Кудзінава", прэзідыум райсавета ігнаруе Закон „Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". І – гэта галоўная прычына, якая прымусіла нас звярнуцца ўжо да дэпутатаў раённага Савета з просьбай аб акрэдытацыі карэспандэнтаў газеты.

Яе мы выказалі на чацвёртай сесіі райсавета. У абмеркаванні пытання аб акрэдытацыі прынялі тры ўдзельнікі сесіі – старшыня райсавета М. М. Валковіч, дэпутат райсавета, галоўны заатэхнік райсельгасупраўлення М. В. Страковіч і дэпутат Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў С. П. Бадзей. Апошні прапаноўваў заслухаць на сесіі тлумачэнне юрыста, які б дакладна і ясна паведаміў дэпутатам, якое рашэнне аб акрэдытацыі карэспандэнтаў „Газеты Уладзіміра Кудзінава" з'яўляецца правільным з пункту адпаведнасці яго існуючаму Закону.

Місію юрыста ўзяў на сябе М. М. Валковіч і паведаміў дэпутатам, што „Закон не абавязвае акрэдытаваць" карэспандэнтаў прыватнай газеты. Гэта дае падставу нам думаць, што М. М. Валковіч, як былы начальнік установы УЖ 15/5, а прасцей – турмы, больш знаёмы з Крымінальным кодэксам, чым з Законам Рэспублікі Беларусь „Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". У гэтым жа Законе менавіта дэкларуецца права рэдакцый сродкаў масавай інфармацыі на акрэдытацыю карэспандэнтаў пры дзяржаўных органах і не робіцца ніякага дзялення сродкаў масавай інфармацыі на дзяржаўныя і прыватныя, бо, як гаворыцца ў Законе, **„дзяржава разглядае сістэму сродкаў масавай інфармацыі як аснову рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзян Рэспублікі Беларусь на свабоду слова і інфармацыі..."**

Пераконваючы дэпутатаў райсавета ў адсутнасці неабходнасці акрэдытацыі карэспандэнтаў „Газеты Уладзіміра Кудзінава", а гэта значыць, у адсутнасці неабходнасці інфармавання аб справах райсавета праз нашу газету 2.000 яе падпісчыкаў, М. М. Валковіч заявіў літаральна наступнае (дыктафонны запіс):

– У нас 210 депутатов в районе, через которых мы и проводим в жизнь все решения, все мысли и через которых должны, не всегда, правда, своевременно, но должны доводить и решения, и предложения. И от них информацию получать. И думается, что это достаточно солидный корпус, который может работать и будет работать.

Так і хочацца запытацца: „О чем бишь Вы, Николай Николаевич?"

Я ў друку працую 27 гадоў і ўпершыню чую, што нейкі сродак масавай інфармацыі непатрэбны таму, што ў нас існуе дэпутацкі корпус.

Пасля такіх пасажаў здзіўлення ў нас ужо не выклікала выступленне дэпутата М. В. Страковіча, які заявіў, што ён толькі вітае існаванне ў нашым раёне яшчэ адной газеты і з задавальненнем даваў і будзе даваць ёй інфармацыю. І „Газета Уладзіміра Кудзінава", на яго думку, мае права на інфармацыю, але ... не на акрэдытацыю! О, акрэдытацыя, гэта нешта зусім іншае!

Ну, як тут не ўсклікнуць:

– Акрэдытацыя – не андуляцыя, але ўсё роўна незразумела, што гэта такое!..

– Чаму вы прэтэндуеце на знаходжанне пад дахам раённага Савета? Чаму я, як старшыня райсавета, павінен працаваць на Мікалая Рымача, які з'яўляецца карэспандэнтам прыватнай газеты? – такія пытанні з характэрным прыціскам на кожным слове з трыбуны сесіі ставіў рэдакцыі „Газеты Уладзіміра Кудзінава" М. М. Валковіч.

Каб адказаць на іх, мне была дадзена адна хвіліна. Усё ж я паспела сказаць дэпутатам, што наша газета і рэдакцыя ні ў якім разе не прэтэндуе на „дах" (гаворачы словамі М. М. Валковіча) райсавета. Мы не патрабуем ад яго ні грошай, ні якой-небудзь іншай матэрыяльнай ці нават маральнай падтрымкі.

Мы, наадварот, прадастаўляем старонкі нашай газеты райсавету і райвыканкаму. Прадастаўляем для таго, каб 2.000 падпісчыкаў (а гэта – і 2.000 выбаршчыкаў) мелі дакладную інфармацыю ад райсавета і райвыканкама. Акрэдытацыя патрэбна для таго, каб карэспандэнты газеты бралі гэтую інфармацыю менавіта ў райсавеце і райвыканкаме, а не здабывалі яе з іншых крыніц...

Цяпер я маю магчымасць дадаць, што, як запісана ў Законе „Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", падпісчыкі „Газеты Уладзіміра Кудзінава", як і ўсе грамадзяне Беларусі, **„...маюць права на своечасовае, аператыўнае атрыманне праз сродкі масавай інфармацыі дакладных звестак аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным і міжнародным жыцці, стане навакольнага асяроддзя.**

**Рэдакцыя мае права запытваць такую інфармацыю ад дзяржаўных органаў, арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў, іх службовых асоб. Запытванне інфармацыі магчыма як у вуснай, так і ў пісьмовай форме. Запытваемую інфармацыю абавязаны прадстаўляць кіраўнікі ўказаных органаў..."** (артыкул 32 Закона „Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі".

Такім чынам, калі старшыня райсавета дае сам інфармацыю, ці дае магчымасць узяць гэтую інфармацыю ў райсавеце карэспандэнтам „Газеты Уладзіміра Кудзінава", то ён працуе не на Мікалая Рымача, Лідзію Цалуйка, Іванова, Пятрова, а на 2.000 жыхароў раёна, выбаршчыкаў, якія з'яўляюцца падаткаплацельшчыкамі і ўтрымліваюць гэты райсавет на свае сродкі. Тое ж, што гэтыя 2.000 чалавек выбралі для сябе, як сродак масавай інфармацыі, „Газету Уладзіміра Кудзінава", а не газету „Івацэвіцкі веснік", з'яўляецца іх правам. І з гэтай акалічнасцю ўжо нельга не лічыцца...

Вось і ўсё, што датычыцца акрэдытацыі карэспандэнтаў „Газеты Уладзіміра Кудзінава" пры райсавеце і райвыканкаме. Тое, што чацвёртая сесія райсавета адмовіла рэдакцыі нашай газеты ў акрэдытацыі карэспандэнтаў, вы ўжо ведаеце.

Адказу з райвыканкама па гэтаму ж пытанню мы яшчэ не атрымалі.

**Л. ЦАЛУЙКА, рэдактар „Газеты Уладзіміра Кудзінава".**

